Гродна
№14 (472),
2 ліпеня 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Заступнікі перад Богам не забываюцца пра родныя мясціны





**БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ ВЫГАДАВАЛА ШМАТ ГОДНЫХ ХВАЛЫ ЛЮДЗЕЙ, СЯРОД ЯКІХ І БЛ. ЦЭЛІНА БАЖЭНЦКАЯ. РАЗАМ З ДАЧКОЙ ЯДЗВІГАЙ ЯНА ЗАСНАВАЛА КАНГРЭГАЦЫЮ СЯСЦЁР ЗМЁРТВЫХПАЎСТАННЯ ПАНА НАШАГА ЕЗУСА ХРЫСТА. ЧВЭРЦЬ ЖЫЦЦЯ МУЖНАЯ ЖАНЧЫНА ПРАВЯЛА Ў АБРЭМШЧЫНЕ (НЕДАЛЁКА АД В. ЗАНЕВІЧЫ). ТУТ У ПАМЯЦЬ АБ БЛАСЛАЎЛЁНАЙ НА МЕСЦЫ, ДЗЕ РАНЕЙ ЗНАХОДЗІЎСЯ ДОМ ЯЕ СЯМ'І, ЗБУДАВАНА КАПЛІЦА, КУДЫ ЧАСТА ПРЫЯЗДЖАЮЦЬ МАЛАДЫЯ СУЖЭНСТВЫ, КАБ ПАМАЛІЦЦА Ў ІНТЭНЦЫІ ДОБРАЙ СЯМ'І І ДАРУЧЫЦЬ СВОЙ САЮЗ ЯЕ ЗАСТУПНІЦТВУ.**

**ВА ЎРАЧЫСТАСЦЬ НАРАДЖЭННЯ СВ. ЯНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ МЕНАВІТА Ў ГЭТЫМ АСАБЛІВЫМ ДЛЯ ДЫЯЦЭЗІІ МЕСЦЫ РАСПАЧАЛОСЯ СВЯТКАВАННЕ 100-ГОДДЗЯ ПАРАФІІ ЗАНЕВІЧЫ. ТУТЭЙШЫЯ ВЕРНІКІ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО БЛ. ЦЭЛІНА НЯСТОМНА ВЫПРОШВАЕ ДЛЯ ІХ НЕАБХОДНЫЯ ЛАСКІ ПЕРАД БОЖЫМ АЛТАРОМ.**

• працяг на с. 3

## Каляндар падзей

*3 ліпеня*
*Свята св. апостала Тамаша.*

*7–8 ліпеня*
*Дыяцэзіяльная ўрачыстасць МБ Каралевы Нашых Сем'яў у санктуарыі ў Тракелях.*

*13 ліпеня*
*Гадавіна мучаніцкай смерці бл. Мар'яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і ваколіц.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Ліпень*

*За тых, хто знаходзіцца ў водпуску і на канікулах – аб дары прадукцыйнага перажывання адпачынку.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск у жніўні.***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Хрысціянін дазваляе Богу весці сябе шляхам нечаканасцей". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 10, 37–42**

Езус сказаў сваім Апосталам: “Хто любіць бацьку ці маці больш, чым Мяне, не варты Мяне. І хто любіць сына ці дачку больш, чым Мяне, не варты Мяне. І хто не бярэ крыжа свайго і не ідзе за Мною, той не варты Мяне. Хто знайшоў жыццё сваё, страціць яго. А хто страціў жыццё сваё дзеля Мяне, знойдзе яго. Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае таго, хто паслаў Мяне. Хто прымае прарока ў імя прарока, узнагароду прарока атрымае. І хто прымае справядлівага ў імя справядлівага, узнагароду справядлівага атрымае. І хто напоіць аднаго з малых гэтых толькі кубкам халоднай вады ў імя вучня, сапраўды кажу вам, не страціць узнагароды сваёй”.

### НАВАТ КУБАК СВЕЖАЙ ВАДЫ МОЖА ЗБАВІЦЬ

Гасціннасць – самая складаная дабрачынная місія для сучаснага чалавека. Такі жэст павінен узмацняць салідарнасць паміж людзьмі, якія праслаўляюць Бога. Чалавеку, што адчыняе дзверы свайго дома, не трэба звяртаць увагу на тытулы і заслугі госця, сардэчна вітаючы яго, як Хрыста. У сваю чаргу асобе, якую прымаюць, не належыць паводзіць сябе, як эгаістычны турыст, шукаць выгады за кошт іншага. Варта рабіць усё, каб не ствараць клопатаў, быць заўсёды гатовым вырушыць у далейшы шлях і, не вагаючыся, прымаць самотнасць. Такім чынам абодва бакі прычыняюцца да нябеснай узнагароды праз вызнанне сваёй веры.

Таму не будзем баяцца адчыніць свае дзверы перад незнаёмым чалавекам, прапанаваць яму самы звычайны кубак свежай вады. Мажліва, гэты бескарыслівы ўчынак будзе адным з тых, якія паспрыяюць нашаму збаўленню.

**XIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 11, 25–30**

У той час, адказваючы, Езус сказаў: “Праслаўляю Цябе, Ойча, Пан неба і зямлі, што Ты схаваў гэта ад мудрых і разумных і адкрыў гэта дзецям. Так, Ойча, бо такая была Твая добрая воля. Усё перададзена Мне Айцом Маім, і ніхто не ведае Сына апроч Айца; і ніхто не ведае Айца, апроч Сына і таго, каму Сын захоча адкрыць. Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам, і знойдзеце спакой для душаў вашых. Бо ярмо Маё любае і цяжар Мой лёгкі”.

### УБОГАЕ СЭРЦА ВЯДЗЕ ДА ХРЫСТА

Сённяшняе Слова прагне адкрыць нас на разуменне духа Хрыста. Яго веліч збудавана не на насіллі і моцы, а на выкананні волі Айца ў прастаце і цярпенні. Давайце правядзём рэвізію нашага спосабу мыслення і дзеяння: ці маем у сабе дух Езуса – дух любові і пакорнасці?

Хрыстос быў Чалавекам добрым. Бескарысліва дапамагаў кожнаму, каму гэта было неабходна. Вучыў, што трэба быць слугамі для бліжніх, і сам жыў згодна са сваімі словамі. Каб сустрэць Яго ў жыцці, мы павінны мець убогае сэрца. Гэта вечная праўда. Ніколі не пачуем Езуса ў шуме і мітусні. Варта часам у пакоры суцішыцца, адкласці ўсе свае справы, абавязкі і проста быць разам з Ім.

Давайце вучыцца лагоднасці і пакорнасці, каб магчы крочыць у Неба побач з нашым Збаўцам. Будзем памятаць пра тое, што адзінай дарогай, на якой мы зможам стаць бліжэй да Езуса і пераймаць Яго, з’яўляецца любоў.

*Кс. Юрый Бяганскі*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# Прымем Марыю да сябе!

*Да Найсвяцейшай Панны, асабліва ў ліпені, вырушаюць у пешых пілігрымках шматлікія вернікі. Яны ідуць да Маці, якая прысутнічае ў будслаўскім, тракельскім ці гудагайскім абразе. Дзеці крочаць, каб падзякаваць за тату і маму, брацікa ці сястрычку, маладыя людзі – каб расказаць пра свае планы на будучыню, дарослыя – каб яшчэ больш умацавацца ў веры. Усе яны прагнуць прыняць Марыю да сябе.*

З вышыні крыжа Езус скіроўвае да сваёй Маці словы: ***“Жанчына, вось сын Твой”.*** Апосталу Яну гаворыць: ***“Вось Маці твая”.*** Далей у Евангеллі чытаем: ***“І з гэтага часу вучань узяў Яе да сябе”*** (Ян 19, 26–27). Гэтыя словы ўтрымліваюць важную для нас ісціну: Збаўца перадае чалавеку ў дар сваю Маці, якая становіцца нашай Маці таксама.

Мы захапляемся духоўным багаццем Марыі, якое Яна перадае Касцёлу. Глядзім на Найсвяцейшую Маці і хочам навучыцца ад Яе рэалізацыі свайго жыццёвага паклікання. Ведаем, што Марыя ішла дарогай веры, бязмежна даверваючы Божым абяцанням, якія па-людску былі немагчымымі: ад звеставання праз трыванне перад абліччам мукі і крыжа свайго Сына аж но да раніцы ўваскрасення. Марыя вучыць нас сваім прыкладам пераживаць веру як досвед, што патрабуе намагання, актыўнага ўдзелу і поўнага даверу Богу.

Шмат святых і блаславёных на працягу многіх стагоддзяў сваім прыкладам вучаць нас прымаць Маці Божую да сябе, даверваючы Ёй штодзённае жыццё. Сярод іх і бл. Цэліна Бажэнцкая – мама, бабуля, манахіня. Яе набажэнства да Нябеснай Валадаркі заключалася ў перайманні Марыі. Як маці бл. Цэліне былі блізкія этапы ўдзелу Найсвяцейшай Панны ў збаўчай місіі Хрыста, пачынаючы ад таямніцы звеставання, Яго нараджэння ці ахвяравання ў святыні аж но да цярпення разам з Сынам і трыумфу ўваскрасення.

Такія святыя і блаславёныя, як Цэліна Бажэнцкая, з’яўляюцца для нас школай хрысціянскай дасканаласці. Паказваюць, як мы павінны жыць, адкрываць таямніцы Бога і чалавека. Св. Павел сказаў: ***“І ўжо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос”*** (Гал 2, 20). Мы ўсе пакліканы да святасці, каб наш эгаізм паміраў, а перамагала жыццё ў Хрысце. Трэба з даверам адкрывацца на Езуса: ***“Яму трэба ўзрастаць, а мне станавіцца меншым”*** (Ян 3, 30). Жыццё, якое хрысціяне атрымалі ў дар, трэба разумець як перамену сутнасці чалавека. Жывём Уваскрослым і ў Ім развіваемся. У гэтым заключаецца святасць.

Да Усемагутнага наступнымі словамі звяртаўся св. Аўгусцін: ***“Увайдзі туды, дзе Ты адкрыў мяне! Адкрый там, дзе я яшчэ закрыты!”.*** Калі будзем паступаць такім чынам, наша жыццё пастаянна будзе прасякнута Божай прысутнасцю.

**Дарагія Чытачы!**
Давайце дзякаваць Усявышняму за дар святых і блаславёных, асабліва тых, што такія родныя сэрцу, бо паходзяць з нашых зямель. Давайце вучыцца ад іх блізкасці з Марыяй, нашай Маці. Няхай яны заўсёды будуць для нас сведчаннем таго, што жыццё – гэта рэалізацыя запаведзі любові да Бога і бліжняга.

**Да 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме 1917–2017**

# Сэрца Езуса і Сэрца Марыі ў фацімскіх аб’яўленнях

***Анёл у Фаціме скіраваў 3-ім пастушкам наступны наказ: “Маліцеся многа! Сэрцы Езуса і Марыі хочуць праз Вас аказаць свету шмат міласэрнасці”. Узнёслыя словы, што прагучалі з яго вуснаў, падкрэслівалі адзінства 2-ух любячых адно аднаго Сэрцаў – Маці і Сына.***

Да аб’яўленняў Маці Божай у Фаціме культ Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ўжо быў шырока распаўсюджаны, але вельмі мала ўшаноўвалася Беззаганнае Сэрца Марыі. Праз фацімскае пасланне Пан Езус наказаў развіваць набажэнства да Найсвяцейшай Маці, а Марыя пацвердзіла, як гэта важна для Яе.

***“Я ўжо хутка пайду ў неба. Ты застанешся тут, каб сказаць людзям, што Бог хоча ўвесці ў свеце набажэнства да Беззаганнага Сэрца Марыі. Калі надыдзе час, каб гаварыць пра гэта, не хавайся. Кажы ўсім, што Усемагутны ўдзяляе ласкі праз заступніцтва Марыі, што людзі павінны іх выпрошваць праз Яе Сэрца, што Сэрца Езуса хоча, каб побач з Ім праслаўлялі Беззаганнае Сэрца Найсвяцейшай Маці. Няхай просяць Марыю аб міры, бо Бог даручыў Яе Сэрцу супакой у свеце. Калі б я толькі магла ўкласці ў сэрцы ўсіх людзей агонь, які палае ў глыбіні майго сэрца і які спрыяе таму, што я так моцна люблю Сэрца Езуса і Сэрца Марыі...”,*** – запісала Луцыя ва ўспамінах аб сустрэчы з Гіяцынтай.

Надзвычай красамоўным у гэтых адносінах быў прыход Божага пасланніка, які дзяўчына апісвае так: ***“Мы пайшлі з Прэгуэйра. Там спачатку памаліліся Ружанец і прамовілі малітву, якой навучыў Анёл, калі аб’явіўся ўпершыню. І тады ён з’явіўся***



***перад намі ў 3-ці раз. Трымаў у руцэ келіх, над якім уздымалася святая Гостыя, з якой у яго сцякалі кроплі Крыві. Раптам келіх з Гостыяй павіслі ў паветры, а Анёл стаў на калені на зямлі і тройчы паўтарыў малітву: «Найсвяцейшая Тройца – Ойча, Сыне і Дух Святы – люблю Цябе з найглыбейшай пашанай і ахвярую Табе бясцэнныя Цела, Кроў, Душу і Боскасць Пана нашага Езуса Хрыста, прысутнага на ўсіх алтарах свету, як адплату за знявагі, святатацтва і абыякавасць, якія Яго абражаюць. Праз невымерныя заслугі Яго Найсвяцейшага Сэрца і праз пасрэдніцтва Беззаганнага Сэрца Марыі малю аб навяртанні бедных грэшнікаў». Затым падняўся з каленяў і падаў мне Гостыю, а змесціва келіха – Гіяцынце і Францішку: «Прыміце Цела і Кроў Пана нашага Езуса, якія церпяць страшныя абразы ад няўдзячных людзей. Кайцеся за іх грахі і суцяшайце Бога нашага»”.***

У фацімскіх падзеях можна ўбачыць працяг папярэдніх аб’яўленняў св. Маргарыце Марыі Алакок – французскай манахіні, якая стала заснавальніцай культу Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Хрыстос скіраваў ёй наступныя словы: ***“Маё Боскае Сэрца палае такой вялікай любоўю да людзей, а асабліва да цябе, што ўжо не можа стрымаць у сабе гэтае гарачае полымя. Павінна выліць любоў праз цябе і паказаць яе людзям, каб узбагаціць іх каштоўнымі скарбамі, якія паказваю табе і якія заключаюць у сабе асвячаючыя і жыватворныя ласкі, неабходныя, каб выратаваць людзей з прорвы пагібелі”.*** Манахіня ўбачыла Сэрца Езуса ***“нібы на троне, цалкам з полымя, якое зззяла ярчэй, чым сонца, з ранай, акружанае каронай з церняў і з крыжам на вяршыні”.*** Збаўца сказаў ёй, што адкрывае яго разам з усімі скарбамі Божай любові, поўнае ласкаў, міласэрнасці і збаўлення для таго, каб людзі яго больш любілі. У гэтых словах заключана незразумелая і бязмежная любоў Хрыста да людзей.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Заступнікі перад Богам
## не забываюцца пра родныя мясціны





З нагоды ўрачыстасці сёстры змёртвыхпаўстанкі ахвяруюць пробашчу парафіі келіх

● працяг са с. 1

### АПЕКА БЛАСЛАЎЛЁНАЙ – ДЛЯ ХВАЛЫ УСЕМАГУТНАГА

У першы дзень урачыстасцей юбілею існавання мясцовай парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата Кунцэвіча св. Імшу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У Абрэмшчыну, дзе пачалося святкаванне, прыбыло шмат гасцей, сярод якіх шматлікія святары, у тым ліку і тыя, якія паходзяць з гэтых зямель, манахіні, прадстаўнікі мясцовай улады і вернікі з розных куткоў Гродзеншчыны. Прыехалі таксама 15 сваякоў бл. Цэліны Бажэнцкай з Польшчы.

У гаміліі іерарх заклікаў вернікаў дбаць аб пераказе ў парафіі Божага слова, з зерня якога нараджаецца вера. ***"Ідзіце далей у пілігрымцы веры ў новыя часы. Няхай маладое пакаленне будзе верным, а старэйшае ўмела перадае скарб веры і прыгожыя звычаі ды традыцыі",*** – заахвоціў біскуп.

На заканчэнне першага этапу ўрачыстасцей пробашч кс. Валерый Быкоўскі падзякаваў сваім папярэднікам – святарам, якія прыбылі, каб разам святкаваць гэтую падзею, а таксама вернікам, якія вялікай пашанай атачаюць парафіяльную святыню і капліцу ў Абрэмшчыне. Святар адзначыў, што трэба асабліва дзякаваць Пану за дар жыцця і паклікання бл. Цэліны і праз яе заступніцтва маліцца, каб Бог быў праслаўлены ў жыцці кожнага чалавека, які жыве на роднай зямлі бласлаўлёнай.

### СЛЕД СЯМ'І БЛАСЛАЎЛЁНАЙ У ПАРАФІІ

На другі дзень св. Імшу на сходах невялікай святыні ў Заневічах узначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх прыбыў сюды не толькі як пастыр, але і як сведка часткі гісторыі парафіяльнай супольнасці, бо паходзіць з яе. Менавіта тут ён узрастаў і выспяваў у пакліканні, беручы прыклад веры і набожнасці з мясцовых вернікаў. Біскуп заклікаў парафіян да падзякі Усемагутнаму за ўсе дары і ласкі, якія на працягу стольких гадоў атрымлівалі, молячыся ў сваім касцёле. І ў той жа час выказаў словы ўдзячнасці самім парафіянам. ***"Не было б гэтай святыні, калі б не было чалавечых сэрцаў, якія так моцна любяць Бога",*** – дадаў іерарх.

Кс. Валерый Быкоўскі нагадаў гісторыю стварэння парафіяльнай супольнасці. Адзначыў, што сімвалічны 1917 год быў годам пачатку вялікіх падзей для Хрыстовага Касцёла на Усходзе, бо акурат у гэты час адбылася бальшавіцкая рэвалюцыя. Святыні знішчаліся, а святары перажывалі праслед. ***"Менавіта ў 1917 годзе па просьбе нашых продкаў, якія былі пазбаўлены касцёла ў Свіслачы і Літвінках, сям'я Бажэнцкіх з Абрэмшчыны перадала на патрэбы вернікаў сваю пахавальную капліцу. Гэта дало пачатак стварэнню парафіі ў Заневічах",*** – распавёў святар.

Святкаванні юбілею завяршыліся словамі ўдзячнасці, якія пробашч прамовіў да ўсіх, хто прымае актыўны ўдзел у жыцці парафіяльнай супольнасці і рознымі спосабамі падтрымлівае святыню.

На ўспамін аб урачыстасці 100-годдзя парафіі былі пасаджаны 3 дубы, як знак моцнай веры тутэйшых парафіян, што накіроўвае людзей у неба.



Біскуп Юзаф Станеўскі садзіць дуб – сімвал сілы і вынослівасці веры нашчадкаў



**Бл. Цэліна Бажэнцкая (дзявочае прозвішча – Хлудзінская) з дзяцінства хацела служыць Богу як манаская сястра. Але па волі бацькоў выйшла замуж за Юзафа Бажэнцкага, які паходзіў з Абрэмшчыны. Тут нарадзіла чацвярых дзяцей: 2-іх пахавала, 2-іх выгадавала. Ва ўзросце 41 год аўдавела. Пасля смерці мужа рэалізавала даўняе жаданне. Калі старэйшая дачка выйшла замуж, разам з малодшай дачкой Ядзвігай паехала ў Рым і стала заснавальніцай новай супольнасці сясцёр змёртвыхпаўстанак.**

**Некалькі фактаў з жыцця бласлаўлёнай:**

- За дапамогу параненым паўстанцам Кастуся Каліноўскага, якую аказвалі ў сямейным маёнтку Абрэмшчына, была арыштавана царскай паліцыяй і адпраўлена ў гродзенскую вязніцу.
- Арганізавала школу для дзяўчат, дзе Джакама Дэла К'еза (будучы папа Бенедыкт XV) служыў у якасці капелана.
- Першы манастыр адкрыла на польскіх землях. Затым – у Балгарыі і ЗША. Усяго паспела заснаваць 22 супольнасці.
- Адышла ў вечнасць за 3 дні да свайго 80-годдзя.



Кс. прэлат Юрый (злева) і кс. прэлат Андрэй (справа) Стэцкевічы

### З парафіі ў Заневічах паходзіць шмат манахінь і святароў, якія ахвярна служаць Касцёлу. Сярод іх – браты-блізняты, якія таксама ў маленстве хадзілі сцежкамі бл. Цэліны Бажэнцкай.

**Кс. прэлат Андрэй Стэцкевіч, Мінск**

*Наша мама паходзіць з Заневічаў, тата – з Абрэмшчыны. У бацькоў нас было васьмёра дзяцей. Колькі сябе памятаю, у сям'і заўсёды цанілася малітва, сакраментальнае жыццё, Эўхарыстыя і ўсё тое, што належыць лічыць самым важным. Я ўсведамляю, што хрысціянскія каштоўнасці былі вынесены намі менавіта з роднага дома...*

*Тата расказваў, што, калі прыйшлі саветы, ксяндза ў Заневічах арыштавалі. Ключы ад касцёла ў сельсавеце забраў ён. Тады бацьку было толькі 19 гадоў. Аднак яму ўдалося пераканаць улады, што ў касцёле не ўдасца зрабіць збожжасховішча, таму што там стаяць лавы, з-за якіх для захавання культур мала месца. На працягу многіх гадоў тата трымаў ключы дома. Калі людзі прыходзілі, адчыняў ім святыню і разам з усімі маліўся.*

*Сёння бацьку ўжо 90 гадоў. Мама памерла 30 гадоў таму. Не так даўно размаўляў з татам і ён зноў узгадаў гэтую гісторыю. Мы вельмі ганарымся сваім бацькам! Ён з'яўляецца краевугольным каменем нашай радасці і нашага жыцця.*

**Кс. прэлат Юрый Стэцкевіч, Калінінград**

*Гняздо для птушак – тое месца, дзе яны адчуваюць сябе ўтульна, куды ахвотна вяртаюцца. Чалавека ж цягне да роднага дома. Ён вяртаецца туды, каб схавацца ад пэўнай небяспекі, цяжкасцей, разнастайных абавязкаў, але таксама для таго, каб быць бліжэй да сваіх каранёў. Заневічы з'яўляюцца для мяне менавіта такім цудоўным гняздом. Ужо на працягу 26-ці гадоў я служу ў Калінінградзе. Люблю тых людзей, люблю тое месца. Адчуваю сябе там вельмі добра. Аднак кожны раз, калі выдаецца нагода, ахвотна вяртаюся на Бацькаўшчыну. Тут маё сэрца б'ецца зусім іншым, прыгожым рытмам, таму што ў гэтым месцы яно незаўважнай ніцю злучана з Сэрцам Езуса.*

*Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Хрысціяне ў барацьбе са злом не адчайваюцца. Хрысціянства культывуе "невылечную" веру ў тое, што адмоўныя і разбуральныя сілы не могуць перамагчы. Заключнае слова ў адносінах да гісторыі чалавека – гэта не нянавісць, не смерць, не вайна. У кожны момант жыцця побач знаходзіцца рука Бога, а таксама тактоўная прысутнасць усіх вернікаў, якія "адышлі перад намі са знакам веры", як сцвярджаецца ў Рымскім Каноне. Іх існаванне сведчыць найперш пра тое, што хрысціянскае жыццё не з'яўляецца недасяжным ідэалам. У той жа час суцяшае: мы не самотныя. Касцёл складаецца з незлічоных братоў, часта безыменных, якія прайшлі перад намі і праз дзейнасць Святога Духа ўцягнуты ў справы тых, хто ўсё яшчэ жыве на зямлі.*

*Мы пыл, які імкнецца да неба. Нашы сілы слабыя, але магутнай з'яўляецца таямніца ласкі, якая прысутнічае ў жыцці хрысціян. Мы верныя зямлі, якую Езус любіў у кожны момант свайго жыцця. Але ведаем і спадзяёмся на канчатковае пераўтварэнне свету, дзе ўрэшце рэшт не будзе слёз, злосці і пакут.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі на плошчы св. Пятра, 21.06.2017*

***Кс. бп Аляксандр Кашкевіч***



*Неабходна клапаціцца аб тым, каб у парафіі заўсёды прысутнічаў Езус, каб перадавалася Божае слова. У ім знойдзеце праўду і мудрасць, адказы на ўсе пытанні, якія турбуюць чалавека. Добра тое разумеў св. Геранім, які казаў, што "няведанне Святога Пісання – гэта няведанне Хрыста". Таму абавязкова неабходна пазнаваць і прымаць Божае слова, бо толькі з таго зярнятка нараджаецца вера.*

*Нам сёння неабходна імкнуцца да Евангелля, а таксама ўвайсці на шлях навяртання і пакаяння. Да гэтага заахвочвала Фацімская Панна, якая стагоддзе таму аб'явілася 3-ім малым пастушкам. Гэта дарога, якую запланаваў Усявышні, заахвочваючы праз свайго Адзінароднага Сына да адкупленчай малітвы ў інтэнцыі навяртання грэшнікаў. У час, калі Бога зневажаюць, Яго права растоптваюць, а свет пагружаецца ў цемру зла, узнагароджанне Усемагутнага ў Хрысце проста неабходнае.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці 100-годдзя касцёла ў Заневічах, 24.06.2017*




◆ *Ватыкан распрацоўвае праект экскамунікі за карупцыю і прыналежнасць да злачынных арганізацый, звязаных з мафіяй. Аб гэтым паведамляе распаўсюджаны праз прэс-бюро Апостальскай Сталіцы камунікат Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека. Адказны за гэтую справу кардынал Пітэр Тарксан патлумачыў, што карупцыя з'яўляецца крайне негатыўнай з'явай. "Нельга растоптваць, адмаўляць чалавечую годнасць ці ствараць ёй перашкоды. Таму наша дыкастэрыя хоча звярнуць увагу на гэтую праблему", – падкрэсліў ён.*

◆ *Генеральны сакратарыят Сінода біскупаў паведаміў аб запуску сайта з нагоды падрыхтоўкі да XV Усеагульнай асамблеі, якая будзе праходзіць у кастрычніку 2018 года ў Ватыкане на тэму "Моладзь, вера і распазнаванне паклікання". Сайт па адрасе youth.synod2018.va ужо даступны ў інтэрнэце. Зараз працуе яго італьянская версія. У бліжэйшы час там будзе змешчана апытанне для моладзі на розных мовах, прыняць удзел у якім можна да 30 лістапада бягучага года.*

◆ *Завяршылася XVIII Міжнародная выстава будаўніцтва і абсталявання касцёлаў, сакральнага мастацтва і дэвацыяналій "SACROEXPO", якая праходзіла ў Кельцах (Польшча). На ёй па традыцыі шырока прэзентаваліся розныя галіны, звязаныя з жыццём Касцёла – духоўнасцю, навукай, культурай і са штодзённым функцыянаваннем святынь. У мерапрыемстве прынялі ўдзел 270 экспанентаў з 13-ці краін, галоўным чынам еўрапейскіх. "SACROEXPO 2017" наведала каля 5-ці тысяч чалавек, сярод якіх было нямала зацікаўленых святароў, архітэктараў, гісторыкаў мастацтва, вытворцаў абсталявання святынь, членаў парафіяльных рад, гаспадароў сакральных аб'ектаў і гандляроў.*

◆ *У Львове (Украіна) адбылася архірэйская хіратанія біскупа Эдварда Кава, якога ў маі бягучага года Святы Айцец Францішак прызначыў дапаможным біскупам Львоўскай архідыяцэзіі. Сёння 39-гадовы іерарх з'яўляецца самым маладым каталіцкім біскупам у свеце. Святарскія пасвячэнні ён прыняў у Санкт-Пецярбургу (Расія) у 2003 годзе. У наступныя гады служыў у розных парафіях Украіны, а таксама выконваў абавязкі настаяцеля манастыра ў Барыспалі і Львове.*

◆ *Францысканцы святкуюць 800-годдзе службы ў Святой Зямлі. Брат Ілля з Картуны быў першым з іх, хто прыбыў у Сірыю ў 1217 годзе (праз 6 гадоў пасля заснавання ордэна). На аснове сваёй дзейнасці яго паслядоўнікі імкнуліся стварыць фарпост братэрства і міру на Блізкім Усходзе. І ў іх гэта атрымалася. Дагэтуль францысканцы застаюцца захавальнікамі найважнейшых святынь хрысціянства. Акрамя таго, працуюць у школах і дапамагаюць убогім. З нагоды юбілею ў кастрычніку бягучага года запланаваны 3-дзённая канферэнцыя і фестываль арганнай музыкі.*

*credo.pro; ekai.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*




**Хутка с. Стэла Ядкоўская з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта адзначыць юбілей 50-годдзя манаскага жыцця. Назарэтанка, якую называюць апосталам гродзенскіх бальніц, цалкам прысвяціла сябе служэнню хворым і церпячым. Цягам тыдня с. Стэла наведвае 8 бальніц. За дзень абыходзіць каля 200 палат. Таксама дзякуючы яе намаганням ў горадзе над Нёманам паўсталі 4 шпітальныя капліцы, дзе пацыенты могуць памаліцца і прыняць удзел у св. Імшы.**

# "Мая місія – будаваць Божае Валадарства ў кожным чалавечым сэрцы"

С. Стэла, апранутая ў белы халат, з-пад якога віднее хабіт, сустракае мяне ля ўваходу ў анкалагічнае аддзяленне Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы. Пакуль ідзём доўгімі калідорамі, манахіня распавядае, што сваё служэнне ў гэтым шпіталі яна распачала ў далёкім 1966 годзе.

***– На той момант я працавала ў прыёмным пакоі,*** – гаворыць с. Стэла. – ***Запісвала хворых, якія паступалі на лячэнне, а заадно цікавілася, якога яны веравызнання. Таму адразу ведала, хто і ў якой палаце ляжыць. Гэта былі складаныя часы атэізму. Святарам нельга было наведваць медыцынскія ўстановы, а хворым былі патрэбны святыя сакраманты. Вось і даводзілася ісці на хітрасць: пераапранаць ксяндза ў белы халат і накіроўваць у адпаведныя палаты.***

– Ці заўсёды ўдавалася заставацца незаўважанымі?

***– А як жа,*** – гаворыць з усмешкай сястра. ***– Аднойчы ў шпіталь патрапіла манахіня з Каменкі. Я рэгулярна яе наведвала і падчас аднаго з такіх візітаў пачула страшныя стогны, якія даносіліся з рэанімацыйнага аддзялення. Там знаходзіўся мужчына ў вельмі цяжкім стане. Я падышла да яго і сказала: "Ці Вы католік, ці праваслаўны, пакайцеся за свае грахі!". Медсёстры пачулі гэта і параілі пакінуць церпячага ў супакоі, бо ён і так у хуткім часе памрэ. Аднак я не страціла надзеі і на наступны дзень прывяла з сабой ксяндза, каб той паспавядаў хворага. Як толькі святар увайшоў у палату, у калідоры пачуліся крокі. Я ўбачыла міліцыянера, што накіроўваўся ў мой бок. Стала страшна, а праз імгненне я зразумела, што ўсё роўна губляць няма чаго, і крыкнула: "Стой, туды нельга ўваходзіць!". Міліцыянер здзівіўся такому загаду, але спыніўся і не стаў адчыняць дзверы. Калі святар скончыў спавядаць, давялося ўцякаць праз запасны выхад, каб нас не выкрылі.***

Уваходзім у анкалагічнае аддзяленне. Сястра асцярожна прыадчыняе дзверы першай палаты і ціхім пяшчотным голасам вітаецца з пацыентамі: ***"Добры дзень! Ці ёсць сярод Вас католікі? Прыходзьце на св. Імшу ў каплічку!".***

Такім чынам манахіня абыходзіць адзін за другім усе пакоі, запрашае хворых прыступіць да споведзі і прыняць Камунію. Прозвішчы ахвочых і нумары палат занатоўвае ў блакнот. Туды ж с. Стэла запісвае імёны пацыентаў, якія па стане свайго здароўя не могуць прыйсці ў капліцу, але хочуць скарыстаць з душпастырскай паслугі.

Нечакана сустракаем знаёмага сястры – Тадзіка. Ён шчыра цешыцца адведзінам. Пачынае распавядаць пра сваю хваробу, потым жаліцца, што моцна хоча дамоў... Манахіня сціскае яго рукі ды запэўнівае ў малітве. Тадзік яшчэ некалькі хвілін моўчкі сядзіць на ложку, а пасля крадком выцірае слязу і дзякуе госці за падтрымку.

***– У маладосці я сама змагалася з хваробай. І, можа, каб сама не дасведчыла болю, мне было б складана зразумець хворых людзей, з якімі зараз сутыкаюся штодня. Таму дзякую Пану Богу за гэтае выпрабаванне,*** – гаворыць с. Стэла. – ***Кожны чалавек, якога сустракаю ў бальніцы, патрабуе ўвагі і асабістага падыходу. Некага трэба пашкадаваць, некага – падбадзёрыць. Камусьці неабходна проста цярпліва выслухаць. Мяне вельмі засмучае, калі ў ходзе размовы хворы пачынае казаць, што ўжо дзясяткі гадоў не быў у споведзі альбо што не верыць у Бога і не хоча нічога змяняць у сваім жыцці. У такія моманты даводзіцца станавіцца ў абарону веры, але рабіць гэта так, каб не адштурхнуць чалавека. Я проста выказваю сваё меркаванне і стараюся падкрэсліць найважнейшае – існаванне душы. Тлумачу, што пахаваюць цела, а душа не памрэ і прадстане перад Божым судом. Канешне, ніхто не дасць гарантыі, што духоўна згублены чалавек пакаецца і захоча паяднацца з Нябесным Айцом. Але я не адчайваюся, малюся і прашу Усявышняга аб ласцы навяртання для няверуючых.***

Медыцынскі персанал ды пацыенты даўно звыкліся з візітамі манахіні і вітаюць яе з належнай пашанаю. Рэдка на якіх тварах можна заўважыць здзіўленне і насцярожанасць. Падчас размовы людзі дзеляцца з ёю сваімі перажываннямі, цяжкасцямі, адкрываюць самыя патаемныя куточкі сваёй душы, а пасля дзякуюць за духоўную падтрымку, прысутнасць і прысвечаны час.

***– Трэба служыць не толькі целу, але і душы чалавека. Таму праз сваю дзейнасць імкнуся будаваць Божае Валадарства ў кожным чалавечым сэрцы. У гэтым, хіба, і ёсць мая місія,*** – гаворыць манахіня. – ***Я вельмі цешуся, што магу несці хворым Хрыста. З Ім лягчэй пераадольваць цярпенні і пакуты. Вера сапраўды чыніць цуды. Яна натхняе надзею, а надзея пазітыўна ўплывае на самаадчуванне.***

Вярнуўшыся ўвечары са шпіталя ў манаскі дом, с. Стэла думкамі і сэрцам застаецца з хворымі. Яна моліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам у інтэнцыях людзей, якіх сустрэла на працягу дня, а таксама ўзгадвае хворых, што рыхтуюцца да сур'ёзных аперацый ці ляжаць у коме.

*Кінга Красіцкая*



*Сястра Стэла падтрымлівае хворых словамі веры і праз сваю малітву даручае іх Пану*



*Падчас св. Імшы ў капліцы, што месціцца ў Гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі*

**Урачыстасць, падчас якой манахіня будзе дзякаваць Богу за дар жыцця, веры і паклікання ў Назарэт, адбудзецца 16 ліпеня ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі). Св. Імша, якую ўзначаліць Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, распачнецца ў 12.00.**

# Пробашч парафіі Гожа збірае рэдкую калекцыю медальёнаў

**Невялікі пасёлак Гожа знаходзіцца ў 15-ці км на поўнач ад горада Гродна. Там ужо 15 гадоў выконвае душпастырскую паслугу кс. Павел Шанчук. Як святар ён не толькі думае пра будучае, але і цікавіцца гісторыяй і імкнецца захаваць для нашчадкаў частку мінулага. Па словах ксяндза, шкада, калі рэчы даўніны незаўважна сыходзяць у нябыт.**



Кс. Павел Шанчук паказвае на цудатворны абраз Маці Божай Суцяшэння ў парафіяльнай святыні. Акурат у гэты час у цэнтральным алтары адбываецца рэстаўрацыя

## ЗАПАЛ ДА КАЛЕКЦЫЯНІРАВАННЯ – З МАЛЫХ ГАДОЎ

Захапленне кс. Паўла сягае каранямі яшчэ ў часы дзяцінства. Раней гэта былі маркі, манеты, цяпер – медальёны, крыжыкі і шмат чаго іншага. Але не хочацца адкрываць усе карты адразу, каб утрымаць Вашу цікаўнасць. Можаце быць упэўнены, што яшчэ неаднаразова сустрэнецеся з калекцыямі святара на старонках “Слова Жыцця”.

“Неяк усё само сабою атрымалася, – распавядае святар. – Некаторыя экспанаты знаходзіў сам. Часам штосьці дарылі. Затым пачаў набываць з рук. І закруцілася…”.

Кс. Павел дэманструе экспазіцыю, на якой прадстаўлены медальёны з выявамі Езуса Хрыста, Марыі, шматлікіх святых, а таксама з адлюстраваннем разнастайных сцэн з Евангелля. Святар з гонарам паказвае першы экспанат, які з’явіўся ў калекцыі – медальён св. Яна Непамуцэна. На яго адваротным баку – Маці Божая



Крыжы з выявамі Маці Божай (справа – крыж “каравака”)

Чанстахоўская. “Марыйныя медальёны на нашых землях, напэўна, найбольш папулярныя пасля езуіцкіх з выявамі св. Ігнацыя Лаёлы і св. Францішка Ксаверыя, – зазначае кс. Павел. – У калекцыі бачым адбіткі Маці Божай са сваім Сынам, у коле Святой Сям’і, працятую мячамі, у атачэнні анёлаў, з ружанцам у руцэ… Шмат медальёнаў, прысвечаных Маці Божай Вастрабрамскай, Чанстахоўскай, Пачаеўскай, Бярдзічаўскай, Жыровіцкай, Бялыніцкай, Барунскай. Ва ўсіх гэтых абразах Марыя шырока ўшаноўваецца вернікамі нашых і суседніх зямель”.

## АДМЕТНЫЯ ЭКЗЕМПЛЯРЫ

Часам знаходкі здзіўляюць сваёй геаграфіяй. “У маёй калекцыі некалькі медальёнаў з выявай Маці Божай Аўстрыйскай, Іспанскай”, – гаворыць кс. Павел. У размове са святаром прыходзім да высновы, што артэфакты маглі застацца ад салдат з далёкіх краёў, якім даводзілася ваяваць на нашых тэрыторыях.

Сярод незвычайных экспанатаў кс. Павел вылучае медальён, што выраблялі як абярэг падчас эпідэміі чумы. “А вось шасціканцовы крыж «каравака», некалькі стагоддзяў таму папулярны ў Польшчы, – звяртае ўвагу святар. – Яго яшчэ называлі «халерным крыжом», бо лічылася, што ён захоўваў ад розных хвароб. На абодвух гэтых рэчах выява Марыі – Маці ласкі Божай”.

У калекцыі ёсць і каталіцкія, і праваслаўныя медальёны. Яны адрозніваюцца выявамі святых, якія ўшаноўваюцца ў абедзвюх Цэрквах, а таксама надпісамі: праваслаўныя часцей за ўсё рабіліся па-старaславянску, каталіцкія – на латыні (сустракаюцца таксама па-польску і па-іспанску). У большасці выпадкаў медальёны выпускаліся з нагоды каранацыі абразоў, кананізацыі святых. Ёсць і нейкія прыватныя матывы, як, напрыклад, адпраўленне святаром прымiцыйнай Імшы. “Чым больш экспанатаў у калекцыі, тым мацней жаданне сістэматызаваць інфармацыю пра іх. Над яе зборам працую ўжо на працягу 2-ух гадоў”, – прызнаецца святар.

## АД ХОБІ ДА СПЕЦЫЯЛІЗАВАННЯ

Кс. Павел распавядае, што раней медальёны чаканілі з медзі, бронзы. Пазней у якасці матэрыялу пачалі выкарыстоўваць алюміній, срэбра. Яшчэ адной з прыкмет, па якой можна распазнаць час вырабу, з’яўляецца вушка медальёна. У большасці выпадкаў, калі не прадугледжана дадатковае, злучальнае вушка (якое можам назіраць і ў сённяшніх упрыгожаннях), то медальён адносіцца да XVII–XVIII стагоддзяў. Інакш – маем справу з больш сучасным вырабам.

У асноўным, медальёны выраблялiся ў манаскіх ордэнах. “Іх насілі на шыі або на руцэ, на поясе або на ружанцы выключна духоўныя асобы або свецкія з ліку багатых, –

**У будучым кс. Павел разглядае магчымасць перадачы сваёй калекцыі ў дыяцэзіяльны музей, які зараз знаходзіцца ў стане распрацоўкі.**

распавядае святар. – Праз нейкі час медальёны налаўчыліся вырабляць народныя ўмельцы, з-за чаго тыя сталі даступнымі для шырокага кола вернікаў. Майстры-самавучкі стваралі формы з гатовых экземпляраў і адлівалі іх са сплаву волава, рабілі т. зв. «пераліўкі». Такія медальёны адрознівае некаторая нязграбнасць, невыразнасць абрысаў”.




Калекцыя святара разам з эскізам “гожскага” медальёна

Найбольш прыгожыя медальёны ў калекцыі, якія адразу кідаюцца ў вочы, адчаканены ў Рыме, пра што сведчыць надпіс “Roma” ўнізе вырабу. Яны вылучаюцца рэзкасцю і дакладнасцю найменшых дэталяў. “Такая якасць! Нават пры сённяшніх тэхналогіях гэта цяжка паўтарыць”, – адзначае кс. Павел.

**Агулам калекцыя медальёнаў налічвае прыблізна 260 штук. Святар збірае яе каля 10-ці гадоў.**

## ПРА ЖАДАННЕ ДАДАЦЬ У КАЛЕКЦЫЮ СВОЙ МЕДАЛЬЁН

Святар ужо доўгі час выношвае ідэю чаканкі медальёна з выявай Маці Божай Суцяшэння, спісанай з цудатворнага абраза, які займае ў парафіяльнай святыні цэнтральнае месца над алтаром. Эскіз ужо даўно гатовы – чакае рэалізацыі на справе. Як зазначае пробашч, у планах выпусціць яго да 150-годдзя кансэкрацыі касцёла. Юбілей прыпадае на восень 2019 года.

У парафіі глыбока ўшаноўваецца Маці Божая. Яе заступніцтву мясцовыя вернікі прыпісваюць уратаванне касцёла падчас Першай сусветнай вайны. Паводле сведчанняў відавочцаў, на небе бачылі выяву Найсвяцейшай Маці, якая сваім шырокім плашчом укрывала святыню ад куль і снарадаў. З нагоды гэтай падзеі ў першай палове XX стагоддзя быў напісаны абраз з адпаведным сюжэтам, пазней выдалі паштоўку. Некалькі гадоў таму над цэнтральным уваходам у касцёл на аснове таго ж сюжэта стварылі вітраж.

“Чамусьці першая малітва, якая прыходзіць у галаву, калі напаткаюць цяжкасці, менавіта «Тваёй абароне». У многіх людзей. Я таксама з гэтай катэгорыі, – адзначае святар. – Неаднаразова адчуваў апеку Маці Божай у сваім жыцці. Упэўнены, Марыя ніколі не пакіне таго, хто трапіў у бяду. Яна – наша галоўная заступніца перад Богам. Як клапатлівая маці, Марыя суперажывае чалавеку і заўсёды выступае ў яго абарону”.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

На памяць аб сустрэчы кс. Павел падарыў мне нацельны крыжык, выраблены прыблізна ў канцы XVII – пачатку XVIII стагоддзя. Раптам падумалася: а тыя ж медальёны, крыжыкі… усе са сваёй гісторыяй! Гэта не манеты, якімі разлічваліся, не кнігі, якія маглі прачытаць толькі аднойчы, а асабістыя рэчы вернікаў, якія тыя маглі насіць ля сэрца ўсё жыццё. Кожны ўладальнік – са сваім лёсам, няпростым шляхам, на якім неаднаразова, мабыць, даводзілася апускаць галаву і, гледзячы на падвеску, аддаваць усе цяжкасці заступніцтву пэўнай святой асобы. Так як прыналежнасць артэфактаў выявіць цяжка, гэтая частка гісторыі для нас, нашчадкаў мінулага, ахутана загадкавасцю. Быць можа, у тым і заключаецца найбольшая таямніца.

*Ангеліна Пакачайла*



З КАТАЛІЦКІХ СМІ

Catholic.by

***Арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці ўзнагароджаны ордэнам Францішка Скарыны***

***Цырымонія ўручэння адбылася ў Кіеўскім нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета.***

*Узнагароду Апостальскі нунцый ва Украіне атрымаў ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з рук пасла Беларусі ў гэтай краіне Ігара Сокала. У мерапрыемстве прыняў удзел таксама Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.*

*У прамове арцыбіскуп Гуджэроці падкрэсліў: “Беларусь і надалей застаецца ў маім сэрцы са сваёй годнасцю, працавітасцю, гасціннасцю і цішынёй, якая напоўнена чуллівасцю і глыбінёй. Яна навучыла мяне разуменню таго, што народ вялікі не таму, што пра яго шмат кажуць, і нават не таму, што ён сам шмат кажа пра сябе, а дзякуючы тым жамчужынам, якія захоўваюцца ў яго душы”.*

niedziela TYGODNIK KATOLICKI

***Папа для Паўднёвага Судана***

***Новая ініцыятыва Святога Айца Францішка будзе выразам блізкасці з народам, які закранула вайна і гуманітарны крызіс.***

*Папа прагне вырушыць у Судан, каб падтрымаць мірны працэс у краіне і ўзмацніць голас Касцёла, які заклікае спыніць насілле, што прыносіць смерць. З-за адсутнасці адпаведных умоў Пантыфік пакуль вымушаны адкласці візіт.*

*Святы Айцец паставіў праз Дыкастэрыю па справах інтэгральнага развіцця чалавека аказаць салідарнасць пакутуючаму народу ў некалькіх праектах. Імі прадугледжана падтрымка для 2-ух шпіталяў, якімі кіруюць манаскія сёстры, фінансаванне 2-гадовых стыпендый для моладзі, а таксама дапамога сем’ям земляробаў у апрацоўцы зямлі і гадоўлі буйной рагатай жывёлы.*

DEON.PL

***Вернікі акрывавіліся для кардынала***

***Ксяндзы і працаўнікі курыі ў Маніле (Філіпіны) у рамках падарунка на Дзень нараджэння для кардынала Луіса Антоніа Тагле ахвяравалі сваю кроў.***

*“Найбольшым дарам з’яўляецца дапамога ў ацаленні, таму мы вырашылі аддаць у падарунак кроў, – расказаў кс. Сані дэ Клара, дырэктар па справах занятасці ў архідыяцэзіі. – Такім чынам мы хацелі паказаць кардыналу, як шануем скарб жыцця”.*

*Сабраная кроў будзе аддадзена патрабуючым, якія не маюць сродкаў, каб здзейсніць пераліванне.*

*Кінга Красіцкая*

## Вернікі з лідскай парафіі прынялі сакрамант канфірмацыі

*Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафіяльную супольнасць Узвышэння Святога Крыжа. Падчас св. Імшы іерарх удзяліў сакрамант хрысціянскай сталасці групе моладзі і старэйшых парафіян.*

Вітаючы біскупа, кандыдаты да прыняцця сакраманту канфірмацыі адзначылі, што прагнуць узбагаціцца Божай ласкай, каб з адвагай ісці далей праз жыццё. Пробашч парафіі кс. канонік Уладзімір Гуляй заклікаў іх развіваць у сабе атрыманыя ласкі і быць сведкамі веры ў сваім асяроддзі.

Звяртаючыся да вернікаў, ардынарый узгадаў пра ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Іерарх адзначыў, што сёння людзям трэба ўглядацца ў сэрца Хрыста і вучыцца ў Яго пакоры, любові і міласэрнасці. Біскуп дадаў, што ў гэты дзень увесь Касцёл моліцца аб святасці для святароў.



"Мы – святары – патрабуем вашай малітвы, каб добра рэалізоўваць місію, атрыманую ад Бога", – падкрэсліў іерарх і звярнуўся да вернікаў парафіі з просьбай аб малітве ў інтэнцыі новых пакліканняў да служэння ў Касцёле.

На заканчэнне ўрачыстасці пробашч парафіі падзякаваў біскупу за ўдзяленне вернікам сакраманту канфірмацыі і запэўніў яго ў малітве.

## Парафіяльны фэст адбыўся ў Гальшанах

*На ўрачыстасць у касцёл св. Яна Хрысціцеля прыбылі мясцовыя вернікі, а таксама святары з Ашмянскага дэканата і шматлікія госці.*

Адпустовую ўрачыстасць узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Гамілію прамовіў кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі. Святар падкрэсліў 2 рысы св. Яна Хрысціцеля, якія варта наследаваць сучаснікам, – вялікую адвагу і незвычайную пакору. Па словах кс. Юрыя, адвага сёння неабходна кожнаму чалавеку, асабліва калі хрысціянскія каштоўнасці і тое, што святое і Божае, спіхваюцца на ўзбочыну жыцця, і калі сцвярджаецца, што гэта ўжо даўно неактуальнае і нямоднае.

Падчас св. Імшы біскуп Аляксандр удзяліў групе вернікаў сакрамант канфірмацыі, заклікаўшы іх ісці праз жыццё "з адвагай і моцай св. Яна Хрысціцеля".

Напрыканцы іерарх падзякаваў пробашчу парафіі а. Багуславу Вуйтовічу OFMConv



за ахвярнае служэнне і шматлікія ініцыятывы з мэтай аднаўлення гістарычнай святыні ў Гальшанах. Завяршылася адпустовая ўрачыстасць эўхарыстычнай працэсіяй. Затым ля ўваходу ў кляштар была асвечана фігура Маці Божай, а пры ўездзе ў Гальшаны – новы прыдарожны крыж. Ён будзе сведчыць аб тым, што на гэтай зямлі жывуць людзі, якія вераць у Бога.

## Парафіяльны адпуст адбыўся ў Шчучыне

*Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў мясцовай святыні сабраліся шматлікія вернікі, каб адсвяткаваць адпуст – другі пасля ўспаміну св. Тэрэзы Авільскай, якая з'яўляецца галоўнай заступніцай парафіі.*

Эўхарыстыю ўзначаліў новапрэзбітэр Гродзенскай дыяцэзіі кс. Анджэй Ганчар, які некалькі месяцаў таму наведваў мясцовую парафію з місійным казаннем яшчэ як дыякан.

Гамілію прамовіў кс. Дзмітрый Папянюк. Святар засяродзіў увагу прысутных на Сэрцы Езуса, якое заўсёды адкрыта на чалавека. "Збаўца павінен быць для ўсіх прыкладам сапраўднай любові і міласэрнасці, таму што Бог ёсць любоў. Сэрца Яго-нае палае любоўю да кожнага чалавека,



а асабліва да бедных грэшнікаў, якія аддаліліся ад Усемагутнага праз грэх. Божае Сэрца чыніць у душах людзей цуды!" – падкрэсліў кс. Дзмітрый.

Урачыстасць завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла.

## Парафіяльны адпуст адбыўся ў Суботніках

*27 чэрвеня ў мясцовым касцёле пад тытулам св. Уладзіслава прайшла ўрачыстасць, прысвечаная галоўнаму заступніку парафіі.*

Святкаванне пачалося эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла. У ёй прынялі непасрэдны ўдзел Рыцары Беззаганнай і дзеці, якія ў гэтым годзе прынялі Першую св. Камунію. Працэсію з Найсвяцейшым Сакрамантам узначаліў кс. дэкан Віктар Субель.

Гамілію да прысутных прамовіў кс. Андрэй Лішко, прэфект Гродзенскай ВДС. Святар распавёў вернікам пра жыццёвы шлях св. Уладзіслава, нагадаў аб тым, што "кожны з нас можа стаць святым, нягледзячы на тое, што сёння прапануе свет". Кс. Андрэй запэўніў сабраных, што святымі не нараджаюцца, імі становяцца. "Бог у сваім плане збаўлення заклікае кожнага да святасці. Давайце жыць так, каб людзі маглі



ў нас убачыць, дасведчыць, перажыць і адламаць Хрыста, як хлеба, столькі, колькі ім патрэбна. Бог ёсць любоў, а хто ў любові трывае, трывае ў Богу, а Бог – у ім", – падкрэсліў святар.

Напрыканцы св. Імшы пробашч кс. Аляксандр Лебядзевіч сардэчна падзякаваў святарам і вернікам за прысутнасць і супольную малітву.

## У касцёле Гродна-Дзевятоўка асвяцілі алтар Маці Божай Нястомнай Дапамогі

*У дзень парафіяльнага адпусту Гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч прыбыў у святыню Найсвяцейшага Адкупіцеля, каб разам з мясцовымі вернікамі ўшанаваць старадаўні абраз Марыі, напісаны ва ўсходнім стылі, асвяціць левы бакавы алтар, дзе ён знаходзіцца, а таксама хрысцільніцу і крапільніцы.*

Ва ўступным слове да прысутных вернікаў звярнуўся пробашч парафіі а. Дзмітрый Лабкоў CSsR. Святар нагадаў пра тое, што летась Касцёл перажываў 150-годдзе з таго часу, як папа Пій IX перадаў абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі айцам рэдэмптарыстам, і падкрэсліў, што асвячэнне алтара прымеркавана да гэтага юбілею.

У гаміліі ардынарый звярнуў увагу на постаць Марыі з Дзіцяткам Езус на абразе: "Заўважце, Яна не засланяе сабою



Хрыста, не прымяншае Яго місіі. Заступніцтва Найсвяцейшай палягае на тым, каб прывесці нас да Езуса, і праз Яго – да Айца".

Урачыстасць завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй, пасля якой ардынарый асвяціў 3 копіі іконы для перэгрынацыі ў парафіі, а таксама благаславіў усіх прысутных абразом Маці Божай Нястомнай Дапамогі.

## АНОНСЫ

### СЁСТРЫ САЛЕЗІЯНКІ ЗАПРАШАЮЦЬ ДЗЯЎЧАТ НА РЭКАЛЕКЦЫІ

**Духоўныя практыкаванні на тэму "Дзе скарб твой, там будзе і сэрца тваё" (Мц 6, 21) пройдуць 16–24 жніўня ў в. Лебедзева (Маладзечанскі р-н., Мінская вобл.).**

Да ўдзелу ў рэкалекцыях запрашаюцца дзяўчаты ва ўзросце ад 14-ці гадоў. Падчас сустрэчы можна будзе паслухаць канферэнцыі, паразважаць над уласным жыццём і засяродзіцца на супольнай малітве. Манахіні прапануюць таксама актыўны адпачынак: майстар-класы, гульні, забавы.

*Запіс і дадатковая інфармацыя па тэлефонах:*
*(8 033) 665-82-56, с. Тэрэса Сольнічэк;*
*(8 029) 382-55-92, с. Вераніка Огар.*

### КАТЭХЕТЫЧНЫЯ КУРСЫ Ў ГРОДНЕ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ

**Дадзеныя курсы рыхтуюць спецыялістаў для катэхетычнай працы ў парафіях. Далучыцца да ліку студэнтаў могуць таксама тыя ахвотныя, хто жадаюць глыбей пазнаць хрысціянскую веру і стаць праваднікамі на шляху да збаўлення.**

У адукацыйнай праграме прадугледжана вывучэнне такіх прадметаў, як каталіцкая дагматыка, маральная і духоўная тэалогія, Святое Пісанне, катэхетыка, кананічнае права, літургіка, каталіцкая псіхалогія і педагогіка, этыка сямейнага жыцця і інш. Навучанне адбываецца ў завочнай форме. Працягваецца 3,5 гады.

**Кандыдаты павінны прадставіць да 30 жніўня ў сакратарыят Гродзенскай курыі наступныя дакументы:**

- пасведчанне аб сакраманце хросту,
- атэстат сталасці,
- медыцынскую даведку,
- 4 фатаграфіі,
- ксеракопію пашпарта,
- уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
- рэкамендацыю ад пробашча,
- заяву з просьбай аб прыняцці.

Прадугледжана папярэдняя суразмова. Заняткі распачнуцца 30 верасня. Будуць праходзіць праз кожныя 2 тыдні ў суботу і нядзелю.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах:*
*(8 0152) 75-33-08, (8 029) 976-15-69.*
*E-mail для даведак: katecheza.kuria@gmail.com.*

### 400-ГОДДЗЕ ПАРАФІІ АДЗНАЧАЦЬ У КРАМЯНІЦЫ

**Юбілейная ўрачыстасць у касцёле Божага Цела адбудзецца 15 ліпеня. Св. Імша, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, распачнецца ў 13.00.**

Фундатарамі крамяніцкага касцёла св. Юрыя, мучаніка, былі кашталян Віцебскі Мікалай Вольскі і яго жонка Барбара. У 1617 годзе яны запрасілі Ордэн Латэранскіх Канонікаў з Кракава і выступілі фундатарамі кляштара і святыні. Касцёл асвечаны 8 ліпеня 1657 года біскупам Віленскім Янам Даўгялам Завішам.

*Да ўдзелу ва ўрачыстасці запрашаюцца духоўныя і свецкія асобы.*

### ГРОДЗЕНСКАЯ СЕМІНАРЫЯ АБ'ЯЎЛЯЕ НАБОР НОВЫХ КАНДЫДАТАЎ

**Паступленне на 2017/2018 навучальны год будзе праходзіць у 2 туры. Уступныя экзамены адбудуцца 10 ліпеня і 7 жніўня (семінарыя прапануе начлег напярэдадні іспыту). Кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах з катэхізіса і актуальнага жыцця каталіцкага Касцёла.**

**Спіс дакументаў для паступлення:**

1. заява з просьбай аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння;
2. уласнаручна напісаная аўтабіяграфія;
3. атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы;
4. пасведчанне аб сакраманце хросту;
5. пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі;
6. пасведчанне аб удзеле ў катэхезе;
7. характарыстыка ад пробашча;
8. медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ;
9. пашпарт і яго ксеракопія (старонкі 31–33);
10. ваенны білет (прыпісное пасведчанне) і яго ксеракопія;
11. 4 фотаздымкі (3х4 см).

*Прыём дакументаў праходзіць у рэктарасе семінарыі кожны дзень (акрамя нядзелі і ўрачыстасцей) па папярэднім запісе.*
*Адрас: г. Гродна, вул. Парыжскай Камуны, 1.*
*E-mail: wsd@grodnensis.by. Тэлефон: (8 0152) 77-02-34.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 ліпеня 1942 г.** – а. Дыянізій Клімчак OFMConv., *проб. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Казімір Шыпіла, *вік. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Юстын Скакоўскі, *капелан сясцёр назарэтанак, Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. д-р Юзаф Казлоўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. кан. Марэк Бурак, *проб. Мсцібава;*
**16 ліпеня 1973 г.** – кс. Адам Вайцяхоўскі, *проб. Гудагай;*
**16 ліпеня 2006 г.** – бр. Бярнард Бяленік OFMConv., *Гальшаны–Гродна.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***

# ШТО МЫ ГАВОРЫМ?

**У беларускай мове нямала ўстойлівых выразаў, якія ўжываем не задумваючыся. Сярод іх – з узгадваннем д'ябла або імем Бога ў неадпаведным кантэксце. На першы погляд можа здавацца, што нічога пагрозлівага ў тым няма, але гэта памылковая думка.**

Часам на некаторыя пытанні людзі адказваюць нібы проста: **"Чорт ведае што"** або **"Чорт яго ведае"**. Але любое згадванне нячыстага не можа застацца незаўважаным тым, хто ў гэтым непасрэдна зацікаўлены, г. зн. самім д'яблам. У наступны раз эксперт па нядобрых справах будзе гатовы "патрэбным" чынам падказаць на чарговае пытанне, бо "ведае што". Чалавек вымушаны гэта выслухаць, таму што, як вынікае, давярае яму.

У эмацыйных выразах **"Што за чорт?", "Якога д'ябла?"** таксама згадваецца нячысты. Падобным чынам у сітуацыях з ужываннем фармулёвах тыпу **"Адзін чорт", "Чорта з два", "Нічарта".** Атрымліваецца, на языку зноў жа "павіс" д'ябал. Трэба не забываць аб тым, што любая спасылка на яго актывізуе нядобрыя сілы да дзейнасці.

Ёсць таксама выразы, якія выкарыстоўваем з пажаданнямі зла. Можа, ніколі не задумваемся пра гэта, бо ўжываем словы машынальна, па прывычцы. **"Ціпун табе на язык"** азначае, што нехта жадае, каб у другога на языку з'явілася балючая язва. **"Каб на цябе ліха", "Каб на цябе немач якая", "Трасца табе ў бок"** або **"Халера яго бяры"** гавораць самі за сябе.

Падобным чынам выкарыстоўваем фармулёўку **"Ідзі к чорту".** Напэўна, не хочам адпраўляць адрасата да нячыстага, робім гэта несвядома. І нават не заўсёды прамаўляем словы ў гневе, вельмі часта жартаўліва. Але не ўсё дзеля смеху бяспечна.

> Нездарма кажуць:
> языку дай волю – завядзе ў няволю.

Здараецца, пра сябе гаворым: **"Чорт вазьмі", "Чорт пабяры".** Гэты імгненны і, здавалася б, бяскрыўдны парыў з'яўляецца своеасаблівым запрашэннем д'яблу да перадачы сябе ў яго рукі. Такім чынам можна самавольна і дабравольна наклікаць бяду. Выказванні тыпу **"Ашалець", "З глузду з'ехаць"** таксама з гэтай катэгорыі. Чалавек робіць сабе нядобрае пажаданне.

Са слоў **"Мяне бесіць"** напрошваецца вывад, што асоба прызнае, нібы ўнутры ў яе жывуць нячыстыя сілы. Можна таксама "загуляцца" і не заўважыць, як д'ябал выкарыстоўвае гэта дзеля сваіх мэт. Або перанесці негатыў на бліжняга, спытаўшы: **"Дзе цябе чэрці носяць?".**

Вельмі часта людзі выкарыстоўваюць выраз **"Бог любіць тройцу".** Па-першае, патрэбна адзначыць, што Бог і ёсць Тройца: Айцец, Сын і Святы Дух. Гэтую праўду веры рэгулярна паўтараем у малітвах на кожнай літургіі. Па-другое, недарэчна выкарыстоўваць падобны выраз пры любой магчымасці, асабліва калі нешта не датычыць Боскага трыадзінства. А пачуць яго можна найчасцей калі робіцца нейкая 3-я спроба, і трэба з поспехам завяршыць пачатую справу.

Нейкія выразы можам выкарыстоўваць у кантэксце легкадумна, з-за чаго яны часам набываюць негатыўную афарбоўку. Напрыклад, здараецца сітуацыя, калі няшчасце абмінае нас асабіста, але закранае бліжняга. На радасцях парою гаворым **"Дзякуй Богу".** Але ці няма ў гэтым крывадушнасці? Падобны выраз **"Усё не дзякуй Богу"** ўвогуле ў корані не адпавядае рэчаіснасці. Хрысціяне павінны прымаць праўду аб тым, што на ўсё воля Усявышняга, Божая веліч праяўляецца ў кожнай справе згодна з Яго Провідам.

> "Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна, бо Пан не пакіне без пакарання таго, хто ўжывае імя Ягонае дарэмна" (Зых 20, 7).

Аналагічна з выразамі **"Не дай Бог", "Барані Божа"** і **"Няхай Бог крые".** Па сваёй сутнасці яны не адлюстроўваюць нейкі дрэнны намер. Але дастаткова толькі выкарыстаць іх у неадпаведным кантэнксце – і ўсё адразу змяняецца. "Не дай Бог, ты сеў на маё месца" або "Барані Божа, яшчэ раз нам сустрэцца", "Няхай Бог крые ад такой цешчы". Не варта пры любой аказіі хавацца за спіну Усемагутнага – **"Богам прашу".** Выраз можа ўжывацца абгрунтавана ў выпадках надзвычайнай неабходнасці.

***Такім чынам, можам назіраць тэндэнцыю, як падобныя выразы становяцца паразітамі ў мове хрысціяніна. Замест таго, каб узбагачаць гаворку па-сапраўднаму духоўным сэнсам, чалавек нядобрым чынам уплывае на сваё жыццё за кошт слоў, якія ўжывае не па прызначэнні.***

*Самавольна, хоць і несвядома. Але Бог не для таго даў чалавеку язык, каб па неасцярожнасці ім можна было сабе нашкодзіць. Таму варта быць вельмі ўважлівымі да таго, што гаворым.*

*Ангеліна Пакачайла*




# IX Дыяцэзіяльная парафіяда дзяцей і моладзі адбылася ў Гродне

Мерапрыемства праходзіла пад дэвізам "Разам з Марыяй да Езуса". У ім прынялі ўдзел 557 чалавек з 40-а парафіяльных супольнасцей. Пераможцам сёлетніх спаборніцтваў стала парафія Найсвяцейшай Тройцы з Росі, ІІ месца заняла парафія Святой Сям'і з Ліды, ІІІ – парафія Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці з Гродна (Аўгустовак).

















*Як рэагаваць на праявы грубіянства ў касцёле?*

*Тэарэтычна мы не павінны сутыкацца з хамствам у святыні: людзі прыходзяць сюды з добрымі намерамі, адкрыта вызнаюць сваю веру ў самыя высокія ідэалы. Але кожны чалавек мае свой характар, featuresрознае выхаванне і рознае (часам вельмі складанае) мінулае. Таму на практыцы, на жаль, часам здараюцца непрыемныя сітуацыі.*

*У падобных абставінах можа ўзнікнуць жаданне даць волю эмоцыям і таксама па-грубіянску адказаць крыўдзіцелю. Найлепшым дарадцам у такіх абставінах з'яўляецца сам Езус Хрыстус – найдасканальшы джэнтльмен. У Святым Пісанні можна знайсці шмат прыкладаў належных паводзін Збаўцы ў нягодных сітуацыях. Прыйшоўшы ў свет, Езус даў людзям новыя правілы жыцця: замест прынцыпу "вока за вока, зуб за зуб" прапанаваў адказваць на крыўду разуменнем і любоўю. У Хрыста неаднаразова здараліся вострыя сітуацыі з фарысеямі, вучнямі, але Ён ніколі не дазваляў эмоцыям узяць над сабой верх. Падобна і мы, калі бачым праяўленні несправядлівасці ў святыні, павінны спытаць сябе: "Што ў гэтай сітуацыі зрабіў бы Езус?".*

*Калі неадпаведныя паводзіны верніка закранулі Вас асабіста, варта культурна звярнуць на гэта ўвагу, спакойна, з павагай растлумачыць, як належыць весці сябе ў касцёле. Можна звярнуцца да пробашча, каб той наступным разам падчас чытання парафіяльных аб'яў адзначыў належныя паводзіны ў святыні. Неабходна памятаць, што да Бога прыходзяць не ідэальныя людзі, грэшнікі. І таму падобныя сітуацыі ні ў якім разе не павінны пахіснуць нашу веру.*

*Кс. Андрэй Лішко*
***Паводле grodnensis.by***

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Салабуду**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы давeрыліся, бласлаўляе кожны Ваш дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем моцнага здароўя, сапраўднай радасці і супакою. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. У гэты цудоўны дзень жадаем Вам моцнага здароўя і радасці на ўсё жыццё. Няхай у святарскай паслузе Марыя асвячае шлях. Вы святар ад Бога! Заўсёды памятаем пра Вас у малітвах.

*Верныя з парафіі Забалаць*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Яну Пецюну і Яну Залогу**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны дзень Вашага жыцця, Маці Божая, якая выбрала Вас, каб апекаваліся Яе Сынам, ахінае любоўю і дабрынёй, святы Заступнік дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна выпрошвае патрэбныя ласкі. Доўгіх гадоў жыцця!

*Верныя з парафіі Забалаць*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у душпастырскай працы, Божай дапамогі і суцяшэння ў цяжкія хвіліны, цярплівасці, душэўнай цеплыні, надзеі, святла Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, чулых людзей побач. Няхай Усемагутны адорыць Вас сваёй міласэрнасцю і будзе крыніцай любові і супакою ў штодзённым жыцці. Дзякуем за ахвярную працу, шчырую малітву, мудрыя і павучальныя казанні, прыклад набожнасці, добрае сэрца і за тое, што Вы з намі і для нас.

*З малітвай і павагай, парафіяне і Ружанцовае кола з Наваельні*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу**

з нагоды 18-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў і Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, поспехаў, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены шчасцем і радасцю, на твары госціць усмешка, а душу ахінае супакой.

*Касцёльны камітэт, удзячныя парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Макараўцаў*

**Паважанаму Айцу Паўлу Раманчуку**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, сілы, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення і апекі святога Заступніка. Няхай Маці Божая нястомна атуляе Вас плашчом мацярынскай любові, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Шчасці Божа!

*Рыцарства Беззаганнай*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці, заступніцтва святога апостала Паўла, стойкасці на святарскім шляху і людской дабрыні. Мы шчаслівыя, што Вы з намі. Дзякуем за працу ў нашай святыні, цярплівасць да нас, клопат, мудрыя, павучальныя казанні, сціпласць і чулае сэрца.

*З малітвай і павагай, верныя з касцёла ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю**

з нагоды Імянін і 50-годдзя жадаем мноства сіл, моцы, здароўя, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці, чулых людзей побач і ўсмешкі на кожны дзень. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры. Аддзяч, Божа!

*Удзячныя парафіяне, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крупава і Валдацішкаў*

**Паважаным Сёстрам Юліце Пятровай і Паўле Радзівілка**

з нагоды Імянін жадаем Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа, здароўя, радасці, сардэчных і шчырых людзей побач, а таксама бласлаўлёнага плёну ў паслузе.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**

з нагоды Імянін ад усёй душы жадаем шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка, здароўя, моцнай веры. Няхай душэўны супакой, радасць і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.

*Парафіяне з в. Андрэеўцы і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жодзішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу**

з нагоды Імянін жадаем мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, людской дабрыні, поспехаў, а таксама шмат радасці. Няхай міласэрны Бог бласлаўляе кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Індуры*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Марцінцу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастырскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, а Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Азёраў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Слонімцу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу веры і надзеі, душэўнага супакою і аптымізму на кожны дзень. Няхай святарская паслуга прыносіць Вам задавальненне. Дзякуем за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова і радасную ўсмешку на твары.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гожы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Лазоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Марыі Панны і святога Заступніка на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Струбніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці, а таксама ўсіх Божых ласкаў, апекі Панны Марыі і святога Заступніка. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданае служэнне, мудрыя казанні і парады, клопат пра касцёл і людзей. Нізкі паклон за працу ў нашай парафіі!

*Верныя касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**

У Дзень імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, сілы, радасці, апекі святога Заступніка, нязгаснага запалу ў працы, зычлівых людзей побач. Няхай ніколі не задзьме вецер, які імгненна знішчае мары, а ўсе Вашыя жаданні Бог пераменяе ў рэальнасць. Няхай не пагасне агонь надзеі, Найсвяцейшая Маці ўдзяляе свае ласкі, а Анёл-ахоўнік заўсёды падтрымлівае, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцця. Заўсёды памятаем пра Вас у малітве. Аддзяч, Божа, за нястомную працу на карысць нашай парафіі!

*Касцёльная рада, парафіяне, Колы Жывога Ружанца МБ Нястомнай Дапамогі і МБ Каралевы Супакою з Рэплі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, мудрасці, цярплівасці, аптымізму, шмат дабрыні. Жадаем усё сваё жыццё з даверам і надзеяй ісці за Езусам. Няхай Вас заўсёды перапаўняе невычэрпная энергія для ажыццяўлення ўсіх мар, Маці Божая і Святы Дух дадаюць сіл, а святы Заступнік апекуецца кожны дзень.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Скубу**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шмат радасці, здароўя, сіл і вынослівасці ў цяжкія моманты жыцця. Няхай Езус умацоўвае ў пакліканні і абараняе, каб Вы заўсёды адчувалі яго надзейнае плячо. Жадаем нязгаснага цяпла ў душы ад Святога Духа, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай яны ўпэўнена вядуць Вас па жыццёвым шляху, усяляючы ў сэрца мужнасць, адвагу і шчырую веру.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" і моладзь з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Шанчуку і Паўлу Урбану**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, цярплівасці, разумення, здзяйснення мар, невычэрпных сіл ад Святога Духа. Няхай Анёл-ахоўнік не адводзіць погляду, прыглядваючы за Вамі. Няхай Езус заўсёды дабраслаўляе Вашу апостальскую дзейнасць, будзе крыніцай святасці, радасці і задавальнення, а Найсвяцейшая Маці Божая дапамагае ў кожны момант жыцця.

*Верныя з касцёла МБ Шкаплернай у в. Прывалка і апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гардзейчыку**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама зычлівых людзей побач. Дзякуем за добрае, шчырае сэрца, мудрыя павучанні і цудоўны прыклад веры. Шчасці Божа!

*Верныя з парафіі Нараджэння НПМ у Камялішках*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні здароўя, поспехаў, радасці на кожны дзень нялёгкай душпастырскай паслугі, Божага бласлаўлення, добрых і зычлівых людзей побач.

*Парафіяне з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: шмат здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе. Няхай Святы Дух асвячае кожны Ваш дзень.

*Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**

У Дзень імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шмат здароўя, Божай апекі і дапамогі, людской зычлівасці і добрага плёну на Божай ніве. Няхай Святы Дух напаўняе Вас патрэбнымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік маюць у сваёй апецы.

*Верныя з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа на святарскім шляху, нястомнай дапамогі святога Заступніка, міласэрнасці ад Усемагутнага, здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая ахінае плашчом сваёй апекі і заступаецца за Вас перад Панам.

*Верныя з Ваўкавыска*

**Паважанай Сястры Гарэцці Мількевіч**

з нагоды Імянін жадаем шмат радасці, шчасця, усмешкі. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Жадаем таксама Божага бласлаўлення, сілы ў выкананні штодзённых абавязкаў і шчодрага плёну на Божай ніве.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважаным Ганне Выдры, Апалоніі Ганьчыц, Юзэфе Раманчук, Станіславу Раманчуку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважаным Аляксандру, Уладзіславу і Яну Асовікам**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, заўсёды добрых і зычлівых людзей навокал, а таксама дасягнення ўсіх мэт.

*Алена Крывіцкая з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў, злучаных з малітвай: апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя для здзяйснення Божых планаў, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божай радасцю і супакоем.

*Верныя з парафіі Гожа*

**Паважанаму Ксяндзу Анатолю Захарэўскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, наш Збаўца, напоўніць Вашае сэрца супакоем, радасцю і надзеяй, дапамога ў пераадольванні цяжкасцей і стане крыніцай святасці ў сённяшнім свеце. Жадаем шмат здароўя, спакойных дзён і добрых людзей на душпастырскім шляху.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка, людской дабрыні, а таксама сіл і радасці на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі. Няхай агонь любові і дабрыні, што палае ў Вашым сэрцы, ніколі не пагасне.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Адэльска*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця і радасці, добрых і зычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу. Няхай Анёл-ахоўнік чувае над Вамі, Езус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх руках, бласлаўляе кожны дзень, а Марыя атуляе плашчом мацярынскай апекі. Дзякуем за шчырыя малітвы, душпастырскую працу, клопат пра нас і святыню.

*З малітвай, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды 9-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца перасылаем самыя шчырыя пажаданні. Няхай Хрыстос, якога штодзённа трымаеш у сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Твой дзень, Маці Божая ахінае сваёй апекай, а Святы Дух нястомна адорвае дарамі.

*Мама і родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Савіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця, Божага бласлаўлення, нястомнай апекі Маці Божай. Няхай Анёл-ахоўнік выпрошвае ў Пана ўсе патрэбныя Вам ласкі. Дзякуем за цудоўныя казанні і прыклад набожнасці, а Вашай Маме – за такога добрага сына святара.

*Кола Жывога Ружанца і верныя з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог апраменьвае святлом кожны дзень жыцця, адорвае здароўем, радасцю і цярплівасцю, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца. Аддзяч, Божа, за супольныя малітвы і абвяшчэнне Евангелля, якое пакідае ў нашых душах глыбокі след.

*Кола Жывога Ружанца і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец бласлаўляе Вас, Езус Хрыстус дапамагае быць верным святаром, Святы Дух вядзе простай сцежкай да святасці, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца Вамі і вучыць пакоры. Няхай кожны дзень праходзіць у радасці і здароўі. Жадаем таксама шчодрага плёну на ніве, куды Вас паклікаў Пан.

*Кола Жывога Ружанца і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай Пан адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца Вамі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач у складаных момантах жыцця. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай працы, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў паслузе Богу і людзям.

*Верныя з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Жырмунах*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама ўсіх дароў Святога Духа. Няхай здароўе будзе моцным, шчасце – бясконцым, у душы пануюць супакой і радасць, а побач будуць зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Касцёльная рада з парафіі Галынка*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3263; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная